*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 31 (613)**

Субота, 20 лютага 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 10000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля



**Печально!**

## Арифметика, от которой можно сойти с ума,

### или О том, как выжить пенсионерке Дарье Соколовской

С Дарьей Михайловной Соколовской я дружу не один год. Бывшая учительница уже пятнадцать лет на пенсии. Живет одна в благоустроенной однокомнатной квартире напротив столичного универсама "Рига". Магазин переведен в разряд "крутых" — коллектив его выкупил и имеет своих диллеров и менеджеров, сам закупает продукты, и теперь на его прилавках есть все, хотя и дорого.

Сегодня у Дарьи Михайловны пенсионный день и она попросила меня помочь ей "закупиться", так как дома шаром покати. Она взяла паспорт, пенсионное удостоверение, книги на коммунальные платежи, и мы пошли на почту. Получив 3 миллиона 638 тысяч рублей, она 741 тысячу сразу оставила в кассе рядом, оплатив квартиру, свет и телефон.

— Моя "пища" номер один — это "дыхалка", — сказала она. — Бесплатных лекарств в аптеке, хоть они мне как астматику и положены, нет уже три месяца. А надо спасаться. Астма — дело такое, что не знаешь, когда ждать приступа. Реагируешь на атмосферное давление, на погоду, на события последних дней, особенно на скачок цен. "Скорую" вызываю в крайних случаях. В основном справляюсь сама, благодаря астмопену.

Заветный пузырек "кусался", ибо стоил 1 миллион 200 тысяч рублей. Но покупку №1 мы совершили. На руках у нас оставалось 1 миллион 697 тысяч рублей.

— А теперь давай думать. Жить до пенсии надо ровно месяц. Будем брать самое необходимое и дешевое.

Мы поднялись по ступенькам в "Ригу". Дарье Михайловне явно не дышалось, но она не пользовалась "дыхалкой", экономила содержимое баллончика — ведь впереди еще 30 дней и неизвестно, что каждый из них готовит.

Мы подошли к стеллажам, заваленным крупами. Дробленая перловка стоила 157 тысяч, рис — 231, горох — 97.500. Купили килограмм гороха, пакет муки для оладий за 96 тысяч.

— Обычно с пенсии я слегка "шиковала", — говорит Дарья Михайловна, — покупала ножку курочки-гриль или головизну и кусочек легкого на сальтисон. Но на это теперь придется не смотреть. Курица-гриль стоит 757 тысяч за килограмм, значит, ножка или грудка потянет на 200 тысяч. Свиные головы продаются по 126 тысяч за килограмм, легкое — по 240 тысяч.

— Давай пройдем к овощам. Нужны лук и морковь.

При взгляде на цены мы поняли, что и мимо этого прилавка тоже надо пройти — лук стоил 181 тысячу за килограмм, морковь — 68 тысяч.

У рыбного прилавка Дарья Михайловна долго рассматривала баночки, коробочки и цены, а потом смело спросила у продавца, сколько штук рыбок в 200-граммовой коробке копченопровесной салаки. Ей посчитали — 23 мелких рыбешки. Заветная рыбка стоила 156 тысяч 200 рублей, но мы ее купили.

— Картошки отварю и по рыбке в день — продержимся.

Купили килограмм сахара за 91 тысячу рублей, хлеб и полбатона, пакет молока и кусочек масла, за которым выстояли в очереди.

— А за всем остальным — ты уж не обессудь — съезди на рынок, там дешевле, — сказала она мне.

В "Риге" мы оставили 513 тысяч рублей. Все, с чем оставалась Дарья Михайловна, — 1 миллион 184 тысячи рублей.

Пока мы шли до автобусной остановки, я училась у мудрой старой женщины науке выживания, которая позволяла хоть как-то не потерять человечий облик.

— Порошок для чистки раковины и ванны я делаю сама. Приношу песочек, просеиваю его, добавляю кальцинированной соды и немножко строгаю в эту смесь обмылки. Шерстяные вещи, а из-за астмы я ношу только их, стираю в шампуни, который продается на почте, вдвое дешевле, чем на рынке, а хватает его надолго. Белье не кипячу, у меня ведь электроплита, и не глажу. Пользуюсь лампочкой с прищепкой. Вечером где что делаю, там лампу и зажгу — свет у меня так просто не горит, а лампа перед глазами светит ярче. В магазине покупаю ветошь на вес, из этих лоскутков шью полотенечки, передник, латаю ими простыни и пододеяльники. Ничего нового уже пять лет не покупаю — не за что.

— А маленькие радости? Купить праздничную открытку, пирожное, флакончик духов?

— Это уже не радости, а огорчения, потому что требуют денег.

Мы сели на скамейку на автобусной остановке. Мне предстояло ехать на Комаровский рынок, а Дарье Михайловне идти домой. Она сжала свои "копейки", а потом твердым голосом сказала: "Купишь пачку стирального порошка и кусочек детского мыла, самую дешевую зубную пасту. Бери только в оптовых киосках — там дешевле. Килограмм гречки и бутылку подсолнечного масла, одну пачку бульонных кубиков суп варить".

— Но в ней только десять кубиков, — перебила я.

— Неважно, я разрежу их надвое. И не забудь про лучок.

На рынке я торговалась за каждую тысячу. И, купив все, уплатила 870 тысяч рублей. Дарье Михайловне на все про все при полуголодном существовании оставалось 314 тысяч рублей. Как просуществовать 30 дней на эти деньги? Покупать только 200 граммов хлеба?

— Не смотри на меня такими глазами, — сказала Дарья Михайловна. — Как я, существует процентов сорок пенсионеров. Душа их кричит день и ночь. Отчаяние душит. Ночью я не могу спать. Подойду к окну, а небо над городом — как в зареве. Это не от огней — электричество на улицах в половине первого отключают, — это от душевной боли. Небо страстей человеческих и бесконечной боли. Потому что только один вопрос мучает большинство людей: как выжить?

**Лилия ЛОМСАДЗЕ.**

**От редакции.** *О "крутых" ценах в "крутых" магазинах мы расскажем в следующий раз.*

*Ніл ГІЛЕВІЧ*



## Наконт перапісу

*— Цішай! Просім увагі!*
*Сёння з вутра, тойсь ад рання,*
*У беларускай грамадзе*
*Новы перапіс ідзе!*
*Перапішам на анкету*
*Пагалоўна ўсіх людзей!..*

*Як пачуў абвестку гэту —*
*Схамянуўся дзед Аўдзей:*
*— А ці ён патрэбен пільна*
*У такі бурхлівы час,*
*Калі ўсё і нестабільна*
*І зусім няпэўна ў нас?*
*Можа, менш было б граху —*
*Пачакаць яшчэ крыху?*

*— Ах, наіўны дзед сівы!*
*Што ты ўзяў да галавы?*
*Хіба перапіс вядзецца*
*Для таго, каб ведаць-знаць,*
*Як у нас людзям жывецца,*
*Як іх працаю заняць?*
*Што ты маеш, што ясі ты,*
*Ці здаровы ты, ці сыты, —*
*Нам пляваць і чхаць на гэта,*
*У нас зусім другая мэта:*
*Мы павінны ўсіх "туземцаў"*
*Па адным перапісаць*
*З беларусаў — на расейцаў.*
*Так — каб нават не пазнаць!*
*Выйдзе тонка — па разліку:*
*Дабравольна і без крыку.*
*Перапішам паасобку,*
*Падрыхтуем да ярма, —*
*І на тым паставім кропку:*
*Беларусі больш няма.*

*— Беларусі? Не, звыроды! —*
*Аж ускрыкнуў дзед Аўдзей.*
*— Нашай волі да свабоды*
*Не асіліць ліхадзей!*
*1999, 17 лютага.*

**Пресс-конференция: о чем говорилось?**

## Экономический вектор в жизнедеятельности СНГ станет преобладающим

Заседание Специального межгосударственного форума по вопросам совершенствования деятельности Содружества Независимых Государств и реформирования его структуры, состоявшееся в Минске 18 февраля, расставило, наконец, акценты на том, как будет развиваться СНГ далее. На состоявшейся после заседания пресс-конференции исполнительный секретарь СНГ Борис Березовский и российский министр по делам СНГ Борис Пастухов проинформировали журналистов о достигнутых результатах. Главными из них они назвали принятие Протокола к Соглашению о свободной торговле, которое должно значительно повысить эффективность экономической интеграции государств СНГ, а также согласие всех участников форума с новой структурой органов Содружества, предложенной Борисом Березовским.

Почетные места в новой структуре уставных органов СНГ вместе с советами глав государств и глав правительств отведены теперь Экономическому совету, возникающему вместо прежнего МЭК, и Исполнительному комитету. Председатель последнего будет вести прямой диалог с лидерами стран Содружества, возглавлять организаторскую деятельность Исполкома по реализации экономических решений, выполнять определенные политические функции, а также решать вопросы, касающиеся международного сотрудничества.

Как подчеркивалось на пресс-конференции, главным приоритетом в отношениях между странами Содружества отныне должна быть экономика, что особенно актуально ввиду нынешнего кризиса. Решение экономических проблем, по мнению Бориса Березовского, способно изменить облик СНГ в положительную сторону. В том числе помочь решению политических и иных вопросов, возникающих в государствах Содружества.

Результаты работы форума будут обсуждаться на Совете глав правительств и Совете министров иностранных дел, а затем и лидерами государств. Они соберутся на саммит предположительно в марте. Именно на этот месяц попросил перенести встречу президентов председатель Высшего Совета глав государств президент России Борис Ельцин.

**Ольга ЩЕДРИНА.**

### Надвор'е

20 і 21 лютага на тэрыторыі рэспублікі захавается воблачнае з праясненнямі надвор'е.

20-га ўначы — па захадзе, удзень — на значнай частцы тэрыторыі снег; 21-га часам навялікія ападкі, месцамі галалёд. Вецер заходні, 4—9, 21-га парывы да 12—14 м/с. Тэмпература паветра ўначы 20-га — -6...-11, пры праясненнях -15...-17; удзень 0...-5; 21-га ўначы — -2...-7, удзень — +1...-4.

## Суддзя Юрый Сушкоў зрабіў беспрэцэдэнтную заяву пра факты ціску ўладаў на сябе і сваіх калег

18 лютага ў офісе праваабарончага цэнтра "Вясна-96" адбылася прэс-канферэнцыя суддзі Ленінскага раёна Бабруйска Юрыя Сушкова, які зрабіў беспрэцэдэнтную заяву аб фактах ціску ўладаў на сябе і сваіх калег з мэтай вынясення абвінаваўчых прыгавораў па некаторых крымінальных справах. Ю.Сушкоў таксама звярнуўся да кіраўнікоў дэмакратычных дзяржаў з просьбай прадаставіць яму палітычнае прыстанішча ў сувязі з пагрозай ягонаму жыццю.

Па словах суддзі, летам 1998 года ён разглядаў крымінальную справу ў дачыненні супрацоўнікаў бабруйскай мытні Патарыкіна і Дразда, якія абвінавачваліся ва ўчыненні службовых злачынстваў, звязаных з пастаўкамі спірту з Бабруйскага гідролізнага завода. Суддзя, азнаёміўшыся з матэрыяламі крымінальнай справы, выказаў абгрунтаваныя сумненні ў даказанасці віны абодвух падсудных. Падчас судзебнага працэсу дадатковых доказаў таксама здабыта не было, і тады паўстала пытанне аб апраўданні абвінавачваемых.

Аднак хутка кабінет Сушкова, па ягонаму сцвярджэнню, наведаў супрацоўнік рэспубліканскага КДБ, які не назваў сябе, але сказаў суддзі аб магчымых жорсткіх мерах у дачыненні да яго ў выпадку вынясення апраўдальнага альбо мяккага прыгавору. Затым Юрый Сушкоў, па ягоных словах, гутарыў з кіраўніком следчай групы, які паўтарыў гэтыя папярэджанні і патлумачыў, што справа знаходзіцца пад асабістым кантролем высокай службовай асобы. Аналагічныя пагрозы паступілі і з раённага суда.

У рэшце рэшт суддзю Сушкова прымусілі вынесці патрабуемае некаму рашэнне: Патарыкін асуджаны да двух з паловай гадоў, а Дрозд — да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі.

Юрый Сушкоў прывёў шэраг іншых фактаў "тэлефоннага права", якія мелі месца ў ягонай практыцы. У заяве, перададзенай ва ўсе праваабарончыя арганізацыі Беларусі, АБСЕ, прэзідэнту краіны, Генеральнаму пракурору, старшыні КДБ і старшыні Вярхоўнага суда, Ю.Сушкоў піша, што "суддзі часцей за ўсё выносяць прыгаворы пад пагрозай быць растаптанымі", а таксама з-за "кар'ерных абяцанкаў".

Ю.Сушкоў заявіў журналістам пра тое, што знаходзіцца зараз на нелегальным становішчы ў сувязі з магчымасцю арышту альбо замаху на жыццё. 30 студзеня ён падаў заяву аб звальненні з пасады суддзі — "у сувязі з маімі маральнымі і палітычнымі перакананнямі, немагчымасцю больш адступацца ад свайго сумлення, прынцыпаў і правасвядомасці, ахоўваючы "законы" таталітарнага рэжыму".

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

Пр. Лукі, Парфена.
К. Людмілы, Лявона.

ЛЮТЫ
**20**
'99 СУБОТА

Усход 7.19
Захад 17.29
Даўж. дня 10.10

Перш. квадра
23 лютага
Усход 10.17
Захад —

Пр. ДАРАВАНАЯ НЯДЗЕЛЯ (Тыдзень сырэдны), Захара, Савы, Фёдара.
К. Элеаноры, Пятра, Фелікса.

ЛЮТЫ
**21**
'99 НЯДЗЕЛЯ

Усход 7.17
Захад 17.31
Даўж. дня 10.14

Перш. квадра
23 лютага
Захад 0.26
Усход 10.44

Пр. Генадзя, Інакенція, Маркела, Нікіфара, Панкрата.
К. Малгажаты, Марты.

**110 гадоў** з дня нараджэння М. Я. Байкова (1889—1941), беларускага педагога, літаратуразнаўца і крытыка.
**60 гадоў** з дня нараджэння (1939) У. А. Бабкова, беларускага гісторыка.

ЛЮТЫ
**22**
'99 ПАНЯДЗЕЛАК

Усход 7.15
Захад 17.33
Даўж. дня 10.18

Перш. квадра
23 лютага
Захад 1.45
Усход 11.15



### Літоўская электраэнергія будзе пастулаць у Беларусь

Дагавор з Беларуссю аб пастаўцы электраэнергіі пакуль не будзе скасаваны. Аб гэтым паведамляе газета "Летувас айдас". Такое рашэнне было прынята на пасяджэнні ўрада Літвы, дзе вялася размова аб запазычанасці Беларусі за электраэнергію, што пастаўляецца ў нашу рэспубліку. На сённяшні дзень, адзначае газета, яна складае 374,5 мільёна літаў. На пасяджэнні прынята рашэнне, што Беларусь будзе расплачвацца за электраэнергію таварамі — мазутам, драўнінай, грузавымі аўтамабілямі, трактарамі, іх састаўнымі часткамі і калійнымі ўгнаеннямі.

**БелТА-ЭЛЬТА.**

**Кантакты**

## Міжнародныя сустрэчы Ніны Стужынскай



У пачатку лютага ў Гановеры прэзідэнт Усебеларускай жаночай лігі і намеснік старшыні сацыял-дэмакратычнай партыі Беларусі Ніна Стужынская сустракалася з прэзідэнтам парламента Зямлі Ніжняя Саксонія прафесарам Рольфам Варнстедам і обербургамайстрам Гановерa Хербертам Шмальсцігам. З гэтай нагоды адбыўся афіцыйны прыём ў мясцовай гарадской ратушы. Гэтая падзея знайшла адлюстраванне ў нямецкіх сродках масавай інфармацыі.

Падчас сустрэчы абмяркоўвалася палітычная сітуацыя на Беларусі, перспектывы набліжаючыхся парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў, а таксама расійска-беларускія адносіны. Візіт быў падрыхтаваны кіраўніцтвам сацыял-дэмакратычнай партыі Зямлі Ніжняя Саксонія.

**Ганна СОУСЬ.**

**На здымку:** *Ніна Стужынская і Херберт Шмальсціг.*

## Один из лидеров БНФ просит Генерального прокурора "принять меры прокурорского реагирования" в отношении главы Гостелерадиокомпании Беларуси

Исполняющий обязанности председателя Белорусского народного фронта Левон Борщевский направил Генеральному прокурору республики Олегу Божелко жалобу на действия председателя Гостелерадиокомпании Григория Киселя. 11 января, сообщает Л.Борщевский, он обратился к Г.Киселю с письменной просьбой предоставить прямой эфир членам руководящих органов БНФ. Это было сделано в соответствии со статьей 5 Конституции Республики Беларусь, которая гласит, что "политические партии и другие общественные объединения имеют право пользоваться государственными средствами массовой информации", а также на основании закона "О печати и других средствах массовой информации". "С момента отправки названного обращения, — пишет Л.Борщевский в своей жалобе, — прошло 35 дней, однако никакого ответа от Киселя Г.Л. я не получил. Это свидетельствует о том, что председателем Гостелерадио грубо нарушена статья 40 Конституции Республики Беларусь, а также ряд статей законодательных актов Республики Беларусь о порядке работы с обращениями граждан". Л.Борщевский просит О.Божелко "принять меры прокурорского реагирования на правонарушение со стороны г-на Киселя Г.Л.".

**Наталья КУЛАГИНА, БелаПАН.**

## Прадпрымальнікі Брэстчыны просяць улады прыняць палажэнне аб парадку прыватызацыі здаваемых у арэнду памяшканняў

Саюз прадпрымальнікаў Брэсцкай вобласці звярнуўся ў Брэсцкі гарвыканкам з просьбай распрацаваць палажэнне аб парадку прыватызацыі здаваемых у арэнду памяшканняў.

Як адзначаецца ў звароце, многія бізнесмены хацелі б стаць уладальнікамі тых будынкаў, у рэканструкцыю і рамонт якіх яны ўклалі вялікія грошы. Аўтары звароту нагадваюць, што ў свой час прэзідэнт краіны падтрымаў прапанову аб перадачы невыкарыстоўваемых нежылых памяшканняў ва ўласнасць недзяржаўным структурам пры ўмове іх эфектыўнага выкарыстоўвання. Аднак у Брэсце пакуль няма палажэння, якое вызначала б парадак перадачы ці продажу арэндуемых памяшканняў.

Прадпрымальнікі спадзяюцца, што ўлады пойдуць ім насустрач і вырашаць гэтае пытанне.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

**Норавы**

## Вымахалі дзецюкі ростам, а розуму не набраліся

Змрочным і сумным уяўляецца будучае грамадства, у якім ужо зараз маладое пакаленне не знаходзіць дастойнага прымянення сваім сілам і розуму. У цудоўным азёрным краі, на Браслаўшчыне, на працягу некалькіх дзён надарыліся проста дзікунскія здарэнні. Толькі, на жаль, сёння яны, нібы тая саранча, распаўсюджваюцца і ў іншых месцах...

Некалі Браслаў з'яўляўся пагранічнай крэпасцю, ад якой да нашых дзён захаваўся ўчастак абарончага вала на Замкавай гары, які ахоўваецца дзяржавай. Адсюль з вышыні старажытнага кургана райцэнтр у акружэнні блакітных азёр бачны як на далоні. Там жа стаіць высокі, у 10 метраў, помнік з ліхтарам наверсе таленавітаму ўрачу Станіславу Нарбуту. На працягу чатырох дзесяцігоддзяў дапамагаў ён хворым, а ў 1906 годзе пабудаваў для людзей бальніцу. Ды толькі не ўдзячны цяперашнія нашчадкі свайму славутаму земляку, бо аднойчы ноччу вымазалі манумент гноем.

Паблізу кургана на беразе возера месціцца аўтастанцыя, дзе нядаўна ААТ "Браслаўскае АТП №18" завяршыла рамонт. Толькі радасць ад завяршэння добрай справы хутка змянілася абурэннем. Невядомыя вандалы таксама ноччу белыя сцены паўсюдна замазалі чорнай фарбай, а ў самым цэнтры залы вывелі ашаламляльны надпіс "Здесь курил я". Акрамя гэтага юнцы знарок перапраўлілі лічбы ў раскладзе працы станцыі, змянілі час прыбыцця і адпраўкі аўтобусаў на шэрагу маршрутаў.

Калі гэтых вандалаў нашых дзён не ўдалося пакуль адшукаць, то бацькам іншай групы падлеткаў з Браслава ўжо прыйшлося ўплаціць па 1,5 мільёна рублёў штрафу за ўдзел кожнага з іх у незвычайных прыгодах. Вырашылі гэтыя падлеткі схадзіць на спатканне да дзяўчат, якія лечацца ў мясцовым тубсанаторыі. Каб звярнуць на сябе ўвагу, кавалеры спачатку ўзарвалі петарду, а потым пад вокнамі дзяўчынак пачалі запальваць запалкі і ўстаўляць іх палаючымі ў сцяну. Жаданага спаткання не адбылося, паколькі ў санаторыі быў ціхі час і персанал папрасіў няпрошаных гасцей пакінуць тэрыторыю. Расчараваныя хлопцы панура пайшлі, але на іх бяду неўзабаве загарэлася драўляная сцяна аднаго з будынкаў, якую прыйшлося тушыць выкліканым пажарным.

Нарэшце, на мінулым тыдні раніцай невядомы патэлефанаваў у раённую падатковую інспекцыю і паведаміў, што будынак замініраваны. Прыбыўшыя сапёры праверылі ўсе пакоі, але нічога падазронага нідзе не знайшлі.

На першы погляд быццам выпадковыя гэтыя здарэнні, але, калі разабрацца, яны цалкам заканамерныя. Працяглы крызіс, галеча большасці людзей, адсутнасць перспектыў балюча адбіваюцца і на псіхічным здароўі моладзі, якая ўсё больш уцягваецца ў п'янства, крадзяжы, хуліганства. Выхаванне падлеткаў, арганізацыя іх вольнага часу не сталі пакуль важнейшай справай усіх зацікаўленых бакоў.

**Уладзімір ШЫК.**

**Сумна**

### З работы не вярнуўся

Паводле даных Камітэта па інспекцыі працы Міністэрства працы, у мінулым годзе ў выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасці загінулі 294 чалавекі, 627 атрымалі цяжкія траўмы.

У цэлым гэтыя лічбы ніжэйшыя за сумную статыстыку папярэдняга года. Але аптымізму ў дзяржаўных інспектараў працы гэта не выклікае. Напрыклад, калі ў 1997 годзе зарэгістравана 65 групавых няшчасных выпадкаў, то ў мінулым годзе іх было 80. У выніку пацярпелі 216 работнікаў, з якіх 63 загінулі.

На думку спецыялістаў, 90 працэнтаў усіх няшчасных выпадкаў адбываецца па віне саміх работнікаў і толькі 10 працэнтаў абумоўлены недасканаласцю тэхнікі і тэхналогіі.

**Алег ШВЕДАЎ.**

## К сети Internet подключены...

В рамках проекта ПРООН (Программы развития ООН) "Усиление национальной информационной и коммуникационной инфраструктуры в целях усиления демократических реформ, совершенствования управления государством и развития рыночной экономики" (Internet) организованы два постоянно действующих обучающих центра на базе Белорусского государственного университета и Белорусской государственной политехнической академии. На их базе за счет проекта проходят обучение в среднем по 50 человек ежемесячно. При этом были организованы специальные курсы для представителей всех регионов Республики Беларусь (по 8—12 человек из каждой области). За истекший период в рамках проекта прошли обучение более 700 школьников.

Предполагается расширить существующий проект и переименовать его в "Содействие устойчивому человеческому развитию и построению открытого общества в Республике Беларусь на основе использования новых информационных технологий".

Начаты работы по информационному наполнению создаваемой сети. К сети Internet подключены и работают пользователи из Гродно, Витебска, Могилева, Гомеля. Установлено и отлажено оборудование в Бресте и Полоцке. При активном участии специалистов проекта оказана помощь в разработке Web-ресурсов для ряда научных и общественных организаций, учреждений образования и других некоммерческих структур.

Уже реализованы три минипроекта для сферы образования (Белорусский государственный университет, Белорусская государственная политехническая академия, Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники).

**Представительство ООН в Республике Беларусь.**

**Интересный опыт**

## ...13 минут после вызова

Европейский стандарт вызова врача, который приезжает через 13 минут после звонка, — совсем не мечта, а реальность. Правда, осуществили ее пока не в столице, а в деревне Крупицы под Минском.

Здесь работают два специалиста общей практики, именуемые в народе семейными врачами. Моторизованы, оснащены всем необходимым, в том числе амбулаторией, построенной Европейским содружеством медиков Германии и Голландии.

Работа налажена по голландской системе, именно в этой стране стажировался молодой врач Валентин Русович, прежде чем приступить к практике в Крупице. В Голландии есть кафедра семейной медицины, и в основном там готовят именно таких врачей, а узкие специалисты, доки своего дела, лишь их контролируют.

У нас же все наоборот. И нам сегодня трудно заменить участковых терапевтов, потому что мы выпускаем глазников, ушников, кардиологов, хирургов, гематологов — только не специалистов широкого профиля. Русович невольно позавидовал отлаженной системе здравоохранения в чужой стране. Врача там выбирает больной, на него заполняется карточка и отправляется в отдел здравоохранения муниципальной службы. Та автоматически перечисляет доктору определенную сумму, и эти деньги уже не пойдут, как у нас, на строительство дорог или латание дыр в бюджете исполкома. Врач закупит на них оборудование, лекарства, наймет медсестер, массажистов и лаборантов, оплатит консультации светил медицины. Если он злоупотребит деньгами, то это в мгновение ока скажется на лечении людей. Недополучив желаемой помощи, они тотчас заберут свою медицинскую карту, и доктор потеряет пациентов, авторитет и деньги, а это — сродни катастрофе. Престижем очень дорожат и пациентами — тоже. Свято блюдут тайны заболеваний своих подопечных. Чиновники от медицины никогда не уволят врача, если у него есть авторитет, и всегда будут считаться с его мнением.

Валентин Русович жадно впитывал чужой опыт, понимая, как трудно привить его на нашей почве, где врач — бедняк, бесправный перед чиновниками и своими больными. Ведь о реформах в нашей медицине пока еще только говорят, ничего в ней не изменилось. Сельчанам было в диковинку, что они могут обратиться за помощью в любое время суток и даже получить консультацию по телефону — с 12.00 до 13.30 врач отвечает на звонки. У нас привыкли, если температура, давление, насморк, горло, вызывать "скорую", в Голландии за такой вызов могут оштрафовать. "Скорая" там — это машина, скорее напоминающая суперлайнер. В ней — аппарат искусственного дыхания, капельницы, лаборатория и реанимация на колесах. Вызов ее неимоверно дорог, и она приедет только по звонку врача, но не больного. Непросто было отучать людей в Крупицах звонить по пустякам в "скорую", вызов которой обходится в 700 тысяч рублей. Правда, врач словно прикован к своему домашнему телефону. Ему звонят днем и ночью, и все вопросы, мольбы он берет на себя. Машина всегда при нем, и он готов умчаться в любую из 22 деревень колхоза "Новый быт". Заведующий амбулаторией Анатолий Скляров, врачебный стаж которого — четверть века, честно признается, что работа домашнего доктора просто на износ, а зарплата у него та же, что и у всех. Но она в сотню раз интереснее, чем у участкового врача, который своих пациентов, кроме диспансерных, в лицо не знает. Здесь — богатая практика, потому что он обязан сам зашить рану, остановить кровотечение, поставить капельницу, сделать мануальный массаж и разбираться в ста тысячах "почему", быть отменным диагностом.

Некогда "Новый быт" гремел на всю республику, сюда возили гостей на экскурсию и на концерты "Крупіцкіх музыка". Сегодня трудно. Сельчане ищут работу в городе. Приспособились только крупицкие женщины. Они делают вкусный творог и продают в Минске на Комаровке. Все подчинено в деревне творожному бизнесу. Заквасить, оттопить молоко, сцедить, положить под гнет. В Минске свирепствует грипп, и, объезжая пациентов, врачи просят повременить с продажей творога пока спадет эпидемия. Им лестно, что в Крупицах живут в основном здоровые люди. Не от природы такие, а в процессе жизни научившиеся беречь здоровье. Лекции, советы, народные средства, знание психологии и характеров своих подопечных помогают домашним врачам держать планку здоровья в Крупицах на уровне. Круглые сутки они на посту. "Скорая" довольна: вызов в Крупицы только за роженицей или операбельным больным. Со всем остальным домашние врачи справляются сами.

**Лилия ВАСИЛЬЕВА.**

## Без духоўнасці няма развіцця нацыі

Праблема духоўнай кансалідацыі жыхароў Беларусі стала галоўнай тэмай рэспубліканскага навуковага семінара "Рэлігія і асвета: традыцыі і сучасныя праблемы", праведзенага 17 лютага ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны. Семінар насіў характар арганізацыйна-ўстановачнага і заклаў асновы тэм для наступных пасяджэнняў.

Кола ўдзельнікаў семінара даволі шырокае — прадстаўнікі розных канфесій, дыпламатычных прадстаўніцтваў, міністэрстваў адукацыі, культуры, Нацыянальнай акадэміі навук, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў, вучоныя. Прывітальнае пасланне прыслаў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. У ім, у прыватнасці, адзначалася, што адраджэнне Беларусі, адраджэнне свядомасці людзей можа праходзіць паспяхова пры ўмове, калі яно грунтуецца на хрысціянскіх каштоўнасцях.

Як падкрэсліла ў сваёй сціслай уступнай прамове дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны Любоў Уладыкоўская-Канаплянік, Беларусь — краіна поліканфесіянальная і акрамя рэлігійных і хрысціянскіх запаведзяў чалавека ўдасканальвае і асвета. Без духоўнасці ж няма развіцця нацыі.

Удзельнікі семінара з занепакоенасцю адзначалі страту духоўных каштоўнасцей, духоўных традыцый у грамадстве. А ад гэтага ж залежыць і фарміраванне чалавека як асобы ў цэлым. Павелічэнне колькасці злачынстваў, войны садзейнічаюць раз'яднанню. Таму выказвалася неабходнасць кансалідацыі ўсіх канфесій з мэтай аб'яднання людзей і перадачы традыцый духоўнасці будучаму пакаленню. У ходзе дыскусіі былі выпрацаваны практычныя рэкамендацыі і тэмы для наступных пасяджэнняў.

**Аксана ШЫКУЦЬ.**

SOS!

## Хворыя не могуць чакаць

Паважаная "Народная воля"!

Да вас звяртаюцца хворыя, інваліды першай групы, якія лечацца ў 4-й клінічнай бальніцы, праходзяць гемадыяліз. Для таго, каб хвораму не памерці, яго трэба ажыццяўляць тройчы на тыдзень. Але вось нам аб'явілі, што хутка перавядуць на двухразовую ачыстку з-за адсутнасці дыялізатараў.

Гэтыя прыборы пастаўляе барысаўскі завод "Белпрыбор". Але паколькі Міністэрства аховы здароўя не пералічыла яму грошы, дык ён, маўляў, спыняе пастаўкі. Але ж такія хворыя не могуць чакаць, яны проста загінуць.

Хацелася б, каб усе, ад каго залежыць вырашэнне праблемы, актыўна пашукалі выйсце.

**Генадзь АНТОНАЎ.**

## Акцыя ў падтрымку незалежнасці Беларусі

Больш за 200 улётак, імітуючых павесткі ў ваенкамат з адрасамі службы на Сахаліне, чэчэнскай і таджыкскай межах, былі раздадзены студэнтам Гомельскага тэхналагічнага універсітэта імя П.В.Сухога. Як вынікае з тэксту ўлёткі, беларускія прызыўнікі могуць атрымаць такія павесткі рэальна, калі інтэграцыя Беларусі і Расіі будзе працягвацца.

Ініцыятарам акцыі, прысвечанай 10-годдзю вываду савецкіх войскаў з Афганістана і Дню абаронцы Айчыны, выступіла гомельская гарадская арганізацыя "Грамадзянскі форум". Па словах яе віцэ-старшыні Алеся Карніенкі, акцыя задумана для таго, каб моладзь зразумела, што "беларускія хлопцы павінны быць абаронцамі Айчыны — незалежнай Беларусі, а не гінуць у гарах Афганістана ці Чэчні за чужыя інтарэсы".

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**

## Рэгіянальны Цэнтр эканамічнай адукацыі ствараецца ў Гродне

У Гродне ствараецца рэгіянальны Цэнтр эканамічнай адукацыі. Гэта прадугледжвае сумесны праект Вышэйшай школы ўпраўлення і бізнесу Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта, Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў Гродзенскага дзяржуніверсітэта.

Пачатковым этапам стане цыкл дзелавых семінараў аб грунце рынкавай эканомікі. На першым з іх, які прайшоў днямі, размова ішла аб кіраўніцтве персаналам ва ўмовах рынкавай эканомікі. На другім семінары — 24 лютага — слухачы на канкрэтных прыкладах дзейнасці беларускіх і польскіх прадпрыемстваў азнаёмяцца з асновамі маркетынгу.

Семінары праводзяцца выкладчыкамі БДЭУ на аснове навучальных дапаможнікаў, распрацаваных сумесна з нямецкімі спецыялістамі па праграме "Транформ", якая фінансуецца Міністэрствам замежных спраў Германіі і мае на мэце падрыхтоўку спецыялістаў для рэфармавання сістэмы кіраўніцтва прадпрыемствамі ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Удзельнікі семінараў атрымаюць сертыфікат аб павышэнні кваліфікацыі і літаратуру для самастойнай працы з практычнымі рэкамендацыямі.

Семінары мяркуецца зрабіць пастаянна дзеючымі і праводзіць іх не толькі ў Гродне, але і ў раённых цэнтрах вобласці.

**Ася КУНІЦКАЯ.**

Стоп-кадр

*Маржы.*

# Женские слезы

*Самая горькая вода на земле — женские слезы. И самый тревожный звонок из будущего — они же.*

*Если плачут некоторые женщины — беда пришла в отдельные семьи, если многие — тяжело заболело все общество. Нация, у представительниц прекрасного пола которой влажные глаза, практически обречена.*

*Это не мои утверждения. Это выводы крупнейших ученых, политиков, общественных деятелей, завещания наших предков. Какого ребенка может родить и воспитать плачущая, испуганная и убитая горем женщина? Вы когда-нибудь задумывались над этим?*

*Мудрецы многих народов просили нас не забывать, что нравственность общества определяется уровнем уважения к женщине. Расул Гамзатов это завещание облек в яркую поэтическую форму:*

*Я спросил на вершине,*
*Поросшей кизилом:*
*"Что мужского достоинства*
*служит мерилом?"*
*"Отношение к женщине", —*
*Молвило небо в ответ.*

*Замечу для думающих: у всех гениальных людей были замечательные матери, у большинства отпетых мошенников и уголовников матери или пили, или рано их оставили.*

*Проблема насилия над женщинами вошла на Западе в число важнейших. А у нас почти никто не слышит крика жен, которых истязают пьяные мужья. Мало кого волнуют слезы матерей на могилах своих сыновей, погибших в Афганистане. Мы уже не замечаем мокрых глаз матерей и бабушек в магазинах, которые не могут отыскать в карманах недостающих рублей на белую воду под названием молоко...*

*А теперь несколько конкретных житейских историй.*

## 1. Семейная драма

Олег решил сходить в сауну. Вынужден так называть главного героя трагедии, поскольку она сравнительно недавно рассмотрена в Минском городском суде и может быть еще изучена в вышестоящих судебных инстанциях. Но суть ведь не в конкретной фамилии, а в поступках и трагических событиях, которых, увы, хватает в нашей жизни.

В сауну он пригласил жену, охранника, знакомую. По словам последней, у нее были близкие отношения с Олегом, против чего его жена не возражала. Олег уже не раз сидел на скамье подсудимых. С 1990 года трижды получал сроки отсидки. После последнего отбывания начал трудиться в качестве президента фирмы, обзавелся телохранителем.

Жене, видимо, не понравилось внимание мужа к знакомой и, чтобы привлечь внимание к себе, попросила бутылочку с шампунем. Он так швырнул ее в бассейн, что угодил в голову. Она расценила это как издевательство, обиделась и ушла домой. Олегу сильно не понравилось такое поведение жены. Вернувшись домой, он стал ее "воспитывать", ударив несколько раз ладонью по щеке. Она смолчала. А он не мог успокоиться, продолжал избивать жену. Подруга ушла в другую комнату, охранник пытался заступиться за женщину, но получил предупреждение "не вмешиваться в семейную жизнь".

Жена не сопротивлялась, ибо боялась мужа, как она потом поясняла на суде. По этой причине, видимо, и "не возражала" против его близких отношений со знакомой.

Олег подошел к избитой, плачущей жене с бутылочкой бензина, начал прыскать на грудь, ноги, затем щелкать зажигалкой. Она лишь плакала и молчала.

О, эта необъяснимая женская покорность! Откуда она? Из боязни? Рабского воспитания? Или чисто женской природной мудрости?

И лишь когда пекущее пламя охватило ее, закричала. Прибежал охранник, набросил пальто, сбил пламя, затащил женщину в ванну, облил водой... Мужское достоинство, проснувшееся в нем, спасло жизнь несчастной. Но обгорела шея, грудь... Медикам пришлось немало похлопотать, чтобы поправить ее здоровье.

После всего, что произошло, она всем твердила, что сама случайно облила себя бензином из баллончика. Боялась мужа, который пригрозил, что плохо будет, если его выдаст. И только потом обратилась в милицию. Городской суд приговорил Олега к длительному сроку заключения.

Вот такая всплывает фабула из материалов городского суда. Подобных дел-близнецов хватает в судах. Изучая их, не могу понять, почему жены часто пытаются выгораживать подобных мужей, быстро прощают им жестокость? Что они хотят этим сказать? Всем еще раз показать свою слабость или продемонстрировать нравственную силу? Как тут не вспомнить Бальзака, который утверждал, что женский инстинкт стоит прозорливости великих людей. Сами просятся слова и из притчей Иисуса Христа. Помните? "Любите врагов своих, делайте добро ненавидящим вас, молитесь за обижающих вас... Поступайте с людьми так, как хотели бы, чтобы они поступали с вами... Какою мерою мерите, такою и вам будут мерить".

Чувствуете, какой глубокий смысл заложен в них? Но вернемся к нашему повествованию.

Сколько красивых, просто прекрасных слов говорят мужчины женщинам, скажем, 8-го Марта. И сколько гадостей и унижений делают часто им в остальные дни.

...Рассматривая дело "героя" очередного процесса, суд нашел целый ряд смягчающих его вину обстоятельств — ранее не судим, более того, не привлекался даже к административной ответственности, занимался общественно полезным трудом, положительно характеризуется по месту работы, является участником ликвидации последствий аварии на Чернобыльской атомной станции. Словом, вполне достойный гражданин. Тем не менее суд приговорил его к длительному сроку заключения. За что?

После работы Василий загулял с друзьями. Домой вернулся поздно и хорошо подвыпившим. Жена и дети уже спали. Возле кровати жены стояла отпитая до половины бутылка водки. Это так не понравилось ему, что он тут же вылил спиртное в умывальник и разбудил жену. Началась ссора... О том, что происходило дальше, сообщают материалы судебного разбирательства.

Соседка из квартиры, расположенной этажом ниже, проснулась примерно в два часа ночи от шума, который доносился сверху. Слышался грохот и крики женщины, звавшей на помощь детей.

Более точную и жуткую картину рисуют медицинские эксперты. Вот строки из заключения экспертизы: "Точно подсчитать количество ударов на трупе не представляется возможным... Весьма приблизительно можно говорить о не менее 30—40... Многие из них образовались, вероятно, от топтания ногами... Подсудимый пояснил, что он, вероятно, таскал потерпевшую за волосы. Пучки волос обнаружены в различных местах квартиры... На протяжении четырех часов он причинял женщине особые мучения и страдания".

У жены и матери двоих детей были переломаны ребра, черепно-мозговая травма, повреждены ткани легкого, двухсторонний перелом челюсти, перелом костей носа, многочисленные кровоподтеки головы, туловища, конечностей... Суд пришел к заключению об "умышленном убийстве с особой жестокостью".

Какая же "муха укусила" его тем вечером? Что пробудило в нем зверя? Из материалов дела об этом трудно судить. Хотя есть отдельные зацепки. Опираясь на них, смею поделиться некоторыми соображениями.

У человека не сложилась карьера, о чем он сильно переживал. Подобное накопление зла, отрицательной энергии, попытка все держать "внутри себя", не выплескивая, опасны. Со временем недовольство жизнью достигает критической черты и непредсказуемо вырывается на близких, как перезревший нарыв. Не случайно народная мудрость гласит, что в тихом омуте черти водятся.

Рассказанная история также убеждает, как опасна даже временная потеря контроля над собой, когда человек оказывается во власти гнева, а не разума. Ярко и образно сказал об этом Расул Гамзатов:

*Я заклинаю, если только можно.*
*Прости меня. Случается подчас,*
*Что человек другой, со мной*
*не схожий,*
*В мое нутро вселяется на час...*
*Вчера свинцом в мои он влился*
*в жилы*
*И все застлал тяжелой пеленой.*
*Мне страшно вспоминать,*
*что говорил он*
*И что он делал, называясь мной.*

У меня ощущение, что такой бес вселяется в некоторых мужчин не иногда, а постоянно, как только они переступают порог собственного дома. Причем бес куда более злой.

Игорь пришел домой с двумя бутылками вина. Тут же осушил их. Вместе со спиртным в него, видимо, вселился и бес. Парень начал приставать к матери, которая лежала на кровати.

Надо сказать, что мать из-за болезни с трудом передвигалась. При этом она опиралась на палку и держалась рукой за стену. Такое ее состояние злило сына. На суде он пояснил: ссоры с матерью происходили из-за того, что она по состоянию здоровья не могла ухаживать за собой и он вынужден был убирать за ней, за что и был обижен на нее.

Вот такое объяснение. Даже без попытки оглянуться назад, подумать, а сколько матери пришлось ухаживать и убирать за ним, когда был маленьким.

Игоря все сильнее раздражало, что мать лежит. Ему хотелось, чтобы она "училась" ходить. Он подошел к кровати, начал требовать подняться, а затем и стал стаскивать на пол. Она отговаривала, замахнулась даже палкой. Он выбил ее и набросился с кулаками...

Соседи, придя на помощь, вызвали "скорую помощь". Но женщина скончалась в приемном покое городской больницы. На ее теле насчитали десятки ударов руками и ногами, которыми сын причинил ей "особые мучения и страдания". У матери был обнаружен разрыв правой почки, двусторонний разрыв легких, множественные переломы ребер, ссадины головы, туловища...

Боже мой, сколько же жестокости к самому святому человеку — матери? Откуда это все? Если бы это был единичный случай, я его не приводил бы. Но...

Самый великий грех — обидеть мать! Не может быть прощения человеку, поднявшему руку на нее.

Я "приоткрыл двери" только нескольких квартир, и мы увидели жизнь лишь отдельных семей, а точнее, познакомились с тремя семейными трагедиями. Ими перегружены наши суды. Но всем известно, что до суда доходят далеко не все из них. Да и за каждой дошедшей "до финала" — месяцы, а то и годы слез, обид и унижений, которые часто не видны и не слышны за чужим порогом. А тем временем в таких условиях вырастают будущие мужчины.

...Юрий пришел домой навеселе. И сразу стал воспитывать жену. За то, что "не так, как надо, встретила". Затащил в ванную, дал веревку и приказал, чтобы сделала петлю и набросила себе на шею. С плачем она подчинилась. Второй конец веревки он привязал к бачку с водой и заставил приседать. Когда она нагибалась, веревка сдавливала шею. Не хотела приседать пониже — помогал, любуясь, как она, задыхаясь, закатывает глаза...

Когда за дочь заступилась престарелая мать, повалил ее на пол, стал на грудь ногами и начал подпрыгивать, ходить по ней. Она кричала и стонала. Юрий запретил дочери оказать матери помощь, дескать, пусть полежит на полу, как собака. Улучив минуту, женщина убежала к знакомым. Утром узнала, что мать, не выдержав испытаний, ночью скончалась.

За всем спокойно наблюдал семилетний сынишка. Какой из него вырастет мужчина?..

**Иван МАКАЛОВИЧ.**

*(Продолжение в следующем номере.)*

## Кіраўнікі буйных прамысловых прадпрыемстваў Гомеля прынялі рашэнне аб стварэнні ў рэгіёне філіяла беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі

Кіраўнікі буйных прамысловых прадпрыемстваў Гомеля і вобласці прынялі рашэнне аб стварэнні ў рэгіёне філіяла Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі. Гэтае грамадскае аб'яднанне, якое створана ў 1980 годзе, каардынуе намаганні 250 сваіх членаў і юрыдычных асобаў па ажыццяўленні рынкавых пераўтварэнняў у эканоміцы, прадстаўляе іх інтарэсы перад прафсаюзамі і ўрадам, праводзіць падрыхтоўку і экспертызу прыярытэтных для іх тэхніка-эканамічных праграм, законапраектаў і іншых дакументаў прававога характару. На сходзе кіраўнікоў вырашана, што ўзначаліць гомельскі філіял БНПА дырэктар гомельскага прадпрыемства транспарту нафты "Дружба" Аляксей Касцючэнка. Мяркуецца, што ўжо ў бліжэйшы месяц павінны быць завершаны ўсе арганізацыйныя работы па падрыхтоўцы адкрыцця філіяла.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## Выстава беларускага мастака ў Празе

На працягу месяца будзе прымаць наведвальнікаў персанальная выстава карцін беларускага мастака Аляксандра Сушы, якая адкрылася ў сталіцы Чэхіі Празе ў гасцініцы "Піраміда". Увазе пражан прадстаўлена 18 работ майстра.

Як паведамілі ў беларускім Пасольстве ў Празе, дасягнута прынцыповая дамоўленасць аб правядзенні аналагічных выстаў работ мастака А.Сушы і ў іншых гарадах Чэхіі.

## Каб у сіроцкім доме было ўтульна

Абноўленыя прасторныя памяшканні пасля працяглай рэканструкцыі абжываюць з пачатку года маленькія выхаванцы слуцкага Дома дзіцяці. Ён стаў своеасаблівым цэнтрам рэабілітацыі дзяцей-сірот, пазбаўленых сямейнага цяпла. Сёння іх тут больш чым сорак і, на жаль, іх колькасць штогод павялічваецца.

Гэтай дзіцячай установе ўдалося вырашыць многія бытавыя праблемы дзякуючы бязвыплатнай дапамозе сумеснага беларуска-расійскага ААТ "Белгазпрамбанк". Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў яго прэс-службе, у 1998 годзе на ўмацаванне матэрыяльнай базы слуцкага Дома дзіцяці было накіравана звыш паўмільярда рублёў. І сёлета гэты аб'ект стаў галоўным у праграме спонсарскай і дабрачыннай дзейнасці банка.

**Тэрэза ХАЮЦІНА.**

## Мікашэвіцкі шчэбень папулярны ўсюды

К 2000 году Мікашэвіцкае дзяржаўнае прадпрыемства "Граніт" Брэсцкай вобласці разлічвае істотна павялічыць экспарт сваёй прадукцыі. Гэтыя надзеі тут звязваюць з выпускам кубападобнага шчэбеню. Ён карыстаецца вялікім попытам на заходніх рынках. Справа, аднак, ускладняецца тым, што ў прадпрыемства пакуль недастаткова магчымасцей для асваення новай вытворчасці. "Граніту" неабходна дапамога на дзяржаўным узроўні ў рамках рэспубліканскай праграмы імпартазамяшчэння.

**Алег ШВЕДАЎ.**

## Новыя маторы для корманарыхтоўчых камбайнаў

На Мінскім маторным заводзе пачалі стварэнне новага тыпу рухавікоў для пераасnашчэння корманарыхтоўчых камбайнаў замежнай і айчыннай вытворчасці. Аб гэтым карэспандэнту БелТА паведаміў першы намеснік міністра прамысловасці Уладзімір Галко.

Да гэтага часу корманарыхтоўчыя камбайны, якія выкарыстоўваюцца ў калгасах і саўгасах, пераасnашчаліся рухавікамі Д-260. Аднак, як заявіў Уладзімір Галко, іх тэхнічны ўзровень недастатковы для такога тыпу машын. У выніку было прынята рашэнне аб стварэнні так званых доўгахадавых рухавікоў. У Мінпраме ўпэўненыя, што з пастаўленай задачай завадчане справяцца.

**Алег ШВЕДАЎ.**

## У Мінску прайшоў чарговы беларуска-германскі кааперацыйны форум

Больш за 100 беларускіх прадстаўнікоў удзельнічалі ў кааперацыйным форуме, арганізаваным у сталіцы Беларусі Міжнародным кантактным бюро "Даследчая кааперацыя", Працоўнай садружнасцю прамыслова-даследчых аб'яднанняў, Германа-беларускім Домам у Мінску.

Як паведамілі БелаПАН у амбасадзе ФРГ, прадстаўнікі Федэральнага міністэрства эканомікі і тэхналогій пазнаёмілі беларускіх удзельнікаў з вопытам і стратэгіяй германскіх сярэдніх прадпрыемстваў. Было, у прыватнасці, падкрэслена, што Міністэрства эканомікі Германіі аказвае сярэдняму бізнесу падтрымку пры кааперацыі з партнёрамі з Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў галіне даследаванняў і развіцця.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

## Сёлета Брэст будзе адзначаць свой 980-гадовы юбілей

Рашэннем Брэсцкага гарвыканкама створаны аргкамітэт і зацверджаны план мерапрыемстваў да Дня горада, якому сёлета спаўняецца 980 гадоў. Падчас падрыхтоўкі да свята павінны быць прыведзены ў парадак вуліцы, двары, скверы і паркі, фасады жылых дамоў, ачышчаны і адпаліраваны помнікі, добраўпарадкаваны могілкі.

Падчас святкавання Дня горада будуць арганізаваны кірмашы, канцэрты і конкурсы, пройдуць святы мікраpаёнаў, тэматычная праграма для ветэранаў у Брэсцкай крэпасці. На цэнтральнай вуліцы Брэста адбудзецца не толькі звычайнае шэсце працоўных, але і парад войскаў. На стадыёне "Дынама" будзе наладжана тэатралізаванае прадстаўленне "З днём нараджэння, Брэст".

Варта адзначыць, што сёлета горад — двойчы юбіляр, бо 60 гадоў таму — у 1939 годзе — была ўтворана Брэсцая вобласць і Брэст стаў яе цэнтрам.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

Штрыхі жыцця

## Да чаго ж мы дажыліся!

Пазваніла Зіна, жонка аднаго з маіх сяброў. Слова за слова — і расказала:

— Іду я з унучкай і размаўляю, як заўсёды, па-беларуску. Даганяе мяне жанчына ды так ветліва, шчыра кажа: "Даўно не чула на вуліцы беларускай мовы, усе як ачмурэлі — зноў толькі па-руску трэплюцца. А нашая ж мова цудоўная. Вы толькі на ёй з унучкай гаворыце?". — "Толькі". — "Дзякуй вам за вашу беларускасць".

Да чаго мы дажыліся. Гэта ж трэба, каб у нас, на Беларусі, чалавек радаваўся, пачуўшы беларускую мову, — узрушана гаварыла Зіна.

## Ціпаграфія?

Разгаварыліся два чалавекі. Адзін кажа, што па-беларуску правільна казаць "тыпаграфія", другі — "ціпаграфія". Пайшлі на заклад. Якраз зайшоў трэці ў іх пакой.

— Пра што спрэчка, мужыкі?.. Ды гляньце, — хітранька ўсміхнуўшыся, раіць: — Гляньце ў слоўнік.

Глянулі, а там напісана: "Типография — друкарня".

І да сёння ў той канторы смяюцца са "знатакоў".

## "Па-рюску"

Мой аднакурснік, цудоўны знаўца беларускай мовы, пісьменнік Іван Пташнікаў заўсёды не смяяўся, а рагатаў, прыгадваючы адну дзяўчыну, якая, пажыўшы крыху ў Мінску, пачала, прыехаўшы ў сваю вёску, гаварыць не на зразумелай для лагойскіх вяскоўцаў мове.

— То што ты, — пыталі яны, — кажаш?

А яна пагардліва:

— Я гавару па-рюску.

## Шыльды

Вы, паважаныя чытачы, безумоўна, чытаеце шыльды, якімі "ўпрыгожаны" Мінск. І, вядома, заўважылі, што ўсё менш і менш застаецца на іх беларускіх слоў.

Нават на этыкетках прадуктаў. Там, дзе было пазначана па-беларуску, стала — па-руску. Чаму? Хто гэта робіць? Навошта? І дурню зразумела: дагадзіць "старэйшаму брату". А што значыць "дагаджаць"? Гэта значыць: для расейца — нішчыць беларускае, для беларуса — нішчыць сваё, роднае, кроўнае. І абодва нішчаць. І абодва гавораць пра "славянскае адзінства", пра роднасць крыві. Ды дзе яна ў такім разе?

## Двое на двое

Еду ў электрычцы. Людзей у вагоне не густа. Але падабраліся энергічныя, жвавыя, кампанейскія. Толькі тая электрычка кранулася — пайшла размова. На розныя тэмы. Мяне найбольш кранула адна.

На лаўках каля мяне двое гаварылі па-беларуску, а двое — па-руску. Я спачатку падумаў, што ўсе яны — адна кампанія. Аказалася — не, людзі розныя не толькі па ўзросце, але і па поглядах, да гэтага незнаёмыя. Пачалі гуляць у карты: двое беларусаў супраць двух рускіх. Апошнія пачалі прайграваць, адзін з іх, ахоплены няўдачай, заартачыўся:

— Ты хоть по-русски говорить умеешь? — накінуўся на саперніка. Той імгненна адрэагаваў.

— А ты ўмееш па-беларуску? Ты ж на маёй зямлі жывеш.

І пайшло-паехала. Я магу перадаць іх довады-доказы. Аднак сутнасць не ў іх, а ў тым, што існуюць паміж імі пытанні: хто мы? што мы? якія мы? як жывем? для чаго жывем?

Мільганула ў іх размове і прозвішча Міцкевіча, які, на думку аднаго з хлопцаў, вельмі паважаў усё беларускае, беларускую мову. Прыехаўшы дахаты, я прачытаў Адама Міцкевіча даслоўна:

"На беларускай мове... гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек, гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі".

І прыгадалася, што вялікі "інтэгратар" на ўвесь свет заявіў, што на беларускай мове нельга выказаць вялікія думкі. Тады разумныя людзі адразу прыкмецілі, што каб выказаць "вялікія думкі", трэба іх мець. Ну а тыя, хто іх меў, цудоўна выказалі менавіта на беларускай мове. Хто яны? Кірыла Тураўскі, Еўфрасіння Полацкая, Францішак Багушэвіч, Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гарун, Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч...

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ, пісьменнік.**

Дикий случай!

# Сердце — на погосте

В тот недавний январский день в отдаленной деревне Петковичи Барановичского района никто не работал: хоронили военного моряка Балтийского флота Геннадия Буко — шестого по счету и самого младшего ребенка Чеславы Иосифовны и Иосифа Иосифовича Буко. Три с половиной километра — на таком расстоянии находится деревня от кладбища — цинковый гроб сельчане несли по обледенелой дороге попеременке. Громко, многократно прозвонил колокол — в местном костеле прошло отпевание. Похоронили Гену неподалеку, на католическом кладбище, у подножия Жаворонковой горы.

Над могилой ударили сухие гулкие выстрелы прощального салюта. Стоявший рядом со мной морской офицер, капитан третьего ранга российских вооруженных сил, скупо обронил: "Только здесь, на кладбище, особенно остро чувствуешь, что произошло...".

Что же действительно произошло?

21 мая 1991 года Барановичский военкомат призвал на срочную службу уроженца деревни Петковичи Геннадия Буко. Вначале его направили в учебку города Пионерский — курорт в Калининградской области, затем служил в Таллинне, в воинской части 27217, после был переведен в в/ч 27033. Последнее письмо от сына с фотографией родители получили 14 июня 1992 года. После чего матрос пропал...

Куда только не обращалась мать. Но вместо ответов получала казенные отписки. Вроде: "Ваш сын — в командировке", "Часть, в которой служил Ваш сын, расформирована", "Письмо возвращается за неправильным указанием адресов". Мать писала командиру части, отправляла телеграммы. В ответ — гробовое молчание. Обращалась к тогдашнему министру обороны России Павлу Грачеву, в Белорусский республиканский комитет солдатских матерей, Комитет защиты прав военнослужащих, Министерство обороны Республики Беларусь, штаб Балтийского флота в Калининграде. Барановичский военкомат посылал запросы в воинскую часть, в прокуратуру, комендатуру Таллиннского гарнизона, в военную прокуратуру Калининграда — ответов не было.

Попыталась было мать с отцом выехать в Таллинн, самим поискать сына там. Увы, дальше Калининграда их не пропустили — к тому моменту уже потребовались въездная виза, загранпаспорта и доллары. У них всего этого не оказалось.

Разбитая горем мать обращается за помощью в газеты "Известия", "Аргументы и факты", "Рэспубліку". К поиску подключается журналистка барановичской газеты "Наш край" Раиса Сушко. Российская газета "Красная звезда" выступила со статьей "Мать все надеется и ждет".

А Чеслава Иосифовна хотела одного: найти сына живого или узнать горькую правду о его гибели. В костел ходила и регулярно заказывала имшу за возвращение сына, моля Бога еще и о том, чтобы ей и самой послал здоровье и силы дождаться счастливого часа.

И Геннадия нашли... мертвым. Когда российские командиры давали ложные ответы, вроде "Ваш сын в командировке", он уже покоился в чужой земле.

Благодаря кропотливому труду следователя по особо важным делам прокуратуры Балтийского флота майора юстиции А.Ольмезова, личного вмешательства в ЧП командующего флотом адмирала Егорова, тело убитого моряка было найдено. Сейчас в Калининграде готовится суд над бывшим сослуживцем Геннадия Буко, который был арестован в Нальчике. Скольких сил и нервов все это стоило военному юристу — ведь преступление свершилось на территории независимой Эстонии!

Но суда ждут не только в Калининграде — ждут его и в Барановичском районе. Мать, прошедшая в поисках сына кругами ада шесть с половиной лет, не намерена прощать командиров — виновников происшедшего. Ведь они под разными предлогами скрывали убийство, давали явные отписки, заводили в заблуждение следственные органы.

В то же время Чеслава Иосифовна низко кланяется всем тем людям в России и Беларуси, которые не остались равнодушными к чужому горю, приняли участие в активных поисках пропавшего матроса. Это — депутат В.Биккинин, работник Барановичского военкомата майор Л.Марецкий, военные журналисты "Красной звезды" в Москве. Слова благодарности адресует мать-пенсионерка руководителю садоводческого совхоза имени Чернышова на Брестчине Николаю Ивашко, изыскавшему солидные денежные средства на оплату таможенных расходов при пересечении белорусско-литовской границы с гробом, в котором покоилось тело воина!

От имени всей семьи Буко мать погибшего матроса Чеслава Буко молит Бога о здоровье всех людей на Земле, которые помогали ей, чем могли. Она просит Всевышнего, чтобы никого из нас никогда не постигла подобная участь. Сердце матери — на погосте.

**Владимир АЛЬГЕРЧИК.**
*Барановичский район.*

Цікава

## Старадаўні гадзіннік — сведка і суддзя

Рэдкую пасаду дазорцы вежавага гадзінніка-курантаў з адпаведнай стаўкай увялі гарадскія ўлады Гродна. Неабходнасць у гэтым выклікана тым, што з-за нездавальняючага тэхнічнага абслугоўвання хранометр-велікан, узрост якога — прыкладна тры стагоддзі, некалькі дзён таму спыніўся і перастаў радаваць жыхароў і гасцей абласнога цэнтра меладычным боем.

Устаноўлены гадзіннік на вежы самага высокага ў горадзе храма — кафедральнага Фарнага касцёла. Звон яго важыць каля 300 кілаграмаў, а маятнікавыя тросы — 15-метровай даўжыні. За сваё доўгае жыццё гадзіннік не раз выходзіў са строю, яго разбіралі і нават па частках вывозілі за мяжу. Некалькі гадоў таму куранты аднавілі ўмельцы гродзенскіх прадпрыемстваў у супрацоўніцтве са спецыялістамі з Санкт-Пецярбурга. Арганізаваў рэстаўрацыю майстар-самародак, нядаўні выпускнік мясцовага прафтэхвучылішча Аляксандр Налівайка, які, дарэчы, з'яўляецца першым прэтэндэнтам на пасаду дазорцы. Спецыялістам давялося шмат папрацаваць над архіўнымі дакументамі, уключаючы польскія і літоўскія, каб знайсці чарцяжы сапсаваных дэталей і зрабіць новыя.

Чатыры гады таму гродзенскі гадзіннік уключаны ў спіс дзяржаўных гісторыка-культурных каштоўнасцей краіны. За унікальныя эстэтычныя і іншыя ўласцівасці навукова-метадычны савет рэспубліканскай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны прысвоіў яму вышэйшую катэгорыю.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ.**

